## ПАЛАЦ ГУБЕРНАТАРА АБЯЦАЛІ АДНАВІЦЬ ДА 2011 ГОДА ПРАЦЯГ СТР.3


Палац Губернатара і Губернскае праўленне пасля бамбёжкі савецкай авіацыяй

Пасля наведвання Ратушы, калі мы выйшлі з будынка, я паказаў прэзідэнту пусты пляц, дзе быў губернатарскі палац – такі шыкоўны аб'ект для рэстаўрацыі і развіцця турызму. І прэзідэнт паставіўся надзвычай пазітыўна, сказаў, што гэта добрая ідэя", - цытуе словы Ігара Марзалюка сайт магілёўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы ў публікацыі ад 15 кастрычніка 2008 года са спасылкай на "Нямецкую хвалю".

Там жа адзначаецца, што большасць магілёўскіх навукоўцаў досыць скептычна паставілася да ініцыятывы Ігара Марзалюка, спасылаючыся на тое, што ўлады часцяком не выконваюць абяцанае. Але ён сам быў упэўнены ў паспяховасці распачатага праекта, распавёўшы, што "ў аднаўленым будынку хутка з'явіцца музей часоў Першай сусветнай вайны"

"Не ведаю, як будзе ў будучыні, але Барыс Батура паабяцаў, што напрацягу двух гадоў гэты палац будзе адбудаваны. Гэта пакуль што не афармлена ў нейкім папяровым варыянце, але ідэя вітае, ідэя ўхваленая на самым высокім узроўні. Ініцыятыва буд-

■ Якуб Корсак

## РЭДАКТАРА ГАЗЕТЫ «НАШ МАГІЛЁЎ» ПАКАРАЛІ ШТРАФАМ

Ігар Барысаў мусіць заплаціць штраф у памеры 4,5 мільёнаў рублёў за распаўсюд незалежных выданняў – газеты "НАШ Магілёў", а таксама бюлетэня "Сацыял-дэмакрат".




Такое рашэнне прыняў суддзя Магілёўскага раённага суда Станіслаў Леўчанка 12 жніўня.

Суддзя палічыў журналіста вінаватым у парушэнні ч.2 арт.22.9 "Парушэнне заканадаўства аб СМІ" Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

У адпаведнасці з пастановай суддзі Ігар Барысаў атрымаў штраф у памеры 30 базавых велічынь, а ўсе незалежныя выданні ў агульнай колькасці 11 800 асобнікаў па рашэнні суда былі канфіскаваныя.

Сітуацыю каментуе Ігар Барысаў:

- Адміністрацыйная справа, якая была заведзена на мяне з нагоды таго, што я нібыта распаўсюджваў друкаваную прадукцыю, але на самой справе я яе проста перавозіў, лічу палітычнай. Мяркую, што гэта была замова спецслужбаў на мяне, каб прадухіліць распаўсюд незалежнай прэсы ў Магілёве. У дадзеным выпадку вельмі добра спрацавала дзяржаўная рэпрэсійная сістэма, якая складаецца з інспектараў ДАІ, міліцыі, суда. Гэта сталася чарговым прыкладам таго, што гэтыя людзі пераступяць праз сябе, каб выканаць дадзены ім загад.

У судзе ў якасці прадстаўніка была дапушчана яго жонка, юрыстка Алена Барысава. Яна адзначае, што суддзя некалькі разоў пасля заяўленых хадайніцтваў рабіў перапынкі, каб пракансультавацца з замоўцамі палітычнага працэса, як яму паступаць у склаўшайся сітуацыі.

- Я была дапушчана ў якасці абароны па адміністрацыйнай справе майго мужа Ігара Барысава. Адразу хачу адзначыць, што ў судзе былі прыведзены доказы, што адміністрацыйны пратакол складзены з грубейшымі парушэннямі, адно з якіх тое, што ў ім не пазначана частка артыкула, якую парушыў Ігар. Таксама адзначаю, што ў пратаколе было пазначана, што мой муж перавозіў "ўлёткі", а не газеты, а яны не з'яўляюцца друкаванымі сродкамі масавай інфармацыі, якія трапляюць пад адміністрацыйную адказнасць. Таксама паведамляю, што закон "Аб СМІ" цалкам супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнароднаму Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Вынесены штраф суддзёй Станіславам Леўчанка Ігар Барысаў збіраецца абскардзіць у бліжэйшы час у Магілёўскім абласным суддзе.

Нагадаем, што ноччу 16 ліпеня бягучага года аўтамабіль у якім рухаліся Ігар Барысаў, а таксама намеснік старшыні партыі БНФ Рыгор Кастусёў быў прыпынены ў прыгарадзе Магілёва на аўтадарозе Мінск-Магілёў. Інспектары ДАІ праверы дакументы, пасля чаго паведамілі, што на аўтамабіль Барысава прыйшла арыенціроўка – на ім здзейснена хуліганства ў райцэнтры Бялынічы і для далейшага разбіральніцтва неабходна праехаць у Магілёўскі РАЎС. У РАЎСе аўтамабіль быў дагледжаны і ўся незалежная прэса была канфіскаваная міліцыянтамі да рашэння суда, бо наклад кожнага выдання перавышаў вызначаныя законам 299 асобнікаў.

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu №77

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 14 жніўня 2014 г.

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда

ГРАМАДСТВА

■ Уладзімір Лапцэвіч

## МАГІЛЁЎСКАЯ РЭЗІДЭНЦЫЯ БОГУША-СЕСТРАНЦЭВІЧА ЦІКАВА СВАІМ ФАСАДАМ

Правы бок будынка №25 па вуліцы Ленінскай мог бы стаць сапраўдным упрыгожаннем дворыка за каледжам мастацтваў. Калі, канешне, адтуль прыбраць сметнікі і электрычную падстанцыю, што ўродуе адзін з найпрыгажэйшых у Магілеве нешматлікіх палацаў, лічыць краязнавец, старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы Алег Дзячкоў.



**Як так сталася, што ў Магілёве напрыканцы XVIII стагоддзя з'явіўся прыгожы палац, які быў аддадзены каталіцкаму кліру?**

Пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі пасля першага падзела Рэчы Паспалітай адбыўся такі цікавы гістарычны нюанс. У часы Рэчы Паспалітай Магілёў быў яе праваслаўнай сталіцай, бо да XVIII стагоддзя адзінай праваслаўнай епархіяй была менавіта Магілёўская праваслаўная епархія. Адным з асноўных пастулатаў, чаму Расія хацела далучыць Беларусь – гэта абарона праваслаўных ад лацінян. А калі далучылі да Расійскай імперыі, так атрымалася, што Магілёў стаў яе каталіцкай сталіцай.

Пасля наведвання Кацярынай II Магілёва ў 1780 годзе, а яна наведвала службу ў касцёле святога Станіслава, царыца загадала зрабіць яго Кафедральным саборам каталіцкай метраполіі, якая праіснавала аж да 1918 года. І першым каталіцкім мітрапалітам быў Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, ураджэнец Гарадзеншчыны з Ваўкавыскага павету.

Сестранцэвіч пражыў 95 гадоў, быў прафесійным вайскоўцам. Навучаўся ў некалькіх еўрапейскіх універсітэтах. Потым ён быў настаўнікам у князя Радзівіла.

Працяг на стр.2

■ TUT.by

## ЧЕРИКОВ МОЖЕТ «ПОВЗРОСЛЕТЬ» НА 300-400 ЛЕТ

**Официальную дату основания Черикова могут поставить под сомнение.**



Уникальные артефакты нашла экспедиция под руководством магистранта истфака МГУ им. А. Кулешова Ярослава Хомченко во время археологических раскопок, пишет ИА «Могилевские ведомости». Недалеко от райцентра рядом с рекой Удога, которая через 200 метров впадает в Сож, обнаружили фрагменты различных предметов. Они свидетельствуют о более раннем заселении окрестностей Черикова. Находки, как оказалось, на 3-4 столетия старше принятой сегодня официальной даты основания города - 1604 года.

«Эту стоянку открыл мой преподаватель Александр Владимирович Колосов в 1999 году, - говорит Ярослав Хомченко. - Теперь мне посчастливилось вместе со студентами истфака и некоторыми учениками района исследовать данное поселение. У нас в руках уже несколько сотен артефактов различных эпох. Самые ранние из них относятся к финальному палеолиту (12-10 тыс. лет назад), а самые поздние датируются XVII веком».

Как подчеркнул ученый Александр Колосов, артефакты, которые нашла экспедиция Ярослава Хомченко, проливают свет на первоначальную историю города.

## МАГІЛЁЎСКАЯ РЭЗІДЭНЦЫЯ БОГУША-СЕСТРАНЦЭВІЧА ЦІКАВА СВАІМ ФАСАДАМ (ПРАЦЯГ СТР.1)

(працяг стр.1)

А пасля нейкага няшчаснага кахання стаў святаром. Служыў у Гомелі, у каталіцкім прыходзе ў Бабруйску, а потым у Магілёве. Яго асабіста ведала Кацярына ІІ. Менавіта яна яго і прызначыла тут першым каталіцкім мітрапалітам. Для яго ў Магілёве былі пабудаваны дзве рэзідэнцыі. Галоўная рэзідэнцыя, якую мы ведаем, як будынак школы гімнастыкі "Багіма" за каледжам мастацтваў, а другая - загарадная на тэрыторыі сучаснага Пячэрскага лесапарку. Там, дзе некалькі год таму была створана "SOS-Дзіцячая вёска".

**Загараднай рэзідэнцыі ўжо няма?**

Калі будавалі гэтую "SOS-вёску", загарадную рэзідэнцыю Сестранцэвіча знеслі. То бок знеслі не падчас вайны, а вось на нашых вачах. Яна была ў добрым стане, дагэтуль там быў адзін з карпусоў псіхлячэбніцы. Канешне, будынак меў не дужа прэзентабельны выгляд, але ён стаяў, дах быў цэлы, сцены ўсе былі цэлыя. Яшчэ год перад зносам там працавалі і жылі людзі. Цяпер там трава, і стаіць валун, дзе пазначана ў якім годзе заснаваная гэтая "Дзіцячая вёска".

**Чым цікавы будынак па вуліцы Ленінскай 25?**

Гэта была галоўная рэзідэнцыя Сестранцэвіча. Узводзіўся гэты будынак як палац. Галоўны фасад знаходзіўся з правага боку будынка ад цяперашняга ўваходу ў школу "Багіма", з боку каледжа мастацтваў. Яшчэ па праекце там планавалася зрабіць дзве каланады – справа і злева. Гэтага не было зроблена, але праект ёсць. Палац вельмі прыгожа выглядае. У Магілёве не так шмат палацаў захавалася. Іх, дарэчы, не так шмат і было. А гэты захаваўся, нягледзячы на тое, што згарэў у сярэдзіне XIX стагоддзя. Тады засталіся толькі сцены. Іх выкупіў магілёўскі яўрэй Цукерман і перабудаваў пад сінагогу. Яна так і называлася "сінагога Цукермана". Яе галоўны фасад і ўваход былі ўжо з Вялікай Садовай, там дзе цяпер галоўны ўваход у "Багіму".



На фота Алег Дзьячкоў

**Ці можна неяк вярнуць першасны выгляд гэтага дома ці хаця б таго прыгожага фасада?**

Фасад можна аднавіць, калі прыбраць сучасныя прыбудовы – сметніцу і электрычную падстанцыю, якія закрываюць яго і ён з-за гэтага не мае аніякага выгляду. Цяпер, калі людзі туды заходзяць, яны не бачаць і паловы фасада. Калі падстанцыі не будзе, то будзе бачна тая сцяна з рэльефамі, нішамі.

У дадзеным будынку тая сцяна ўяўляе найбольшую каштоўнасць, калі казаць аб яго аднаўленні. І можна было б добра аздобіць унутраны дворык, дзе зараз аўтамабільная пляцоўка. Таксама ў гэтым доме можна было б адкрыць музей Богуша-Сестранцэвіча, бо гэта цэлая эпоха для горада, калі Магілёў быў сталіцай каталіцкай мітраполіі, што прасціралася аж да Сахаліна.

Таму, калі ўсё гэта зрабіць, людзі будуць ведаць, што гэта палац першага беларускага каталіцкага мітрапаліта, беларускага і расійскага ў свой час дзеяча.

Дарэчы, у Пецярбурзе, дзе пахаваны Богуш-Сестранцэвіч, на беразе аднаго з каналаў захавалася тамтэйшая яго рэзідэнцыя. Для нас ён адзначыўся яшчэ і тым, што заснаваў друкарню ў Магілёве, напісаў граматыку беларускай мовы.

## НА ЎЯЗНУЮ БРАМУ СВЯТА-МІКОЛЬСКАГА МАНАСТЫРА Ў МАГІЛЁВЕ ПАСТАВІЛІ "ЦЫБУЛІНУ"

**Неабыякавыя магілёўцы збіраюць подпісы, каб яе прыбралі.**

Брама была пабудаваная ў XVII стагоддзі і рэканструяваная на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя.

Яе аднаўленнем займаўся гісторык і археолаг Алег Трусаў. Па яго словах, падчас рэканструкцыі ніякіх "цыбулін" на браме не было, як і не было іх там і ў XVII стагоддзі, калі быў пабудаваны комплекс Свята-Мікольскага манастыра.

Сама "цыбуліна" з'явілася зусім нядаўна, калі адбываўся чарговы касметычны рамонт брамы.

Сабраныя подпісы магілёўцы збіраюцца накіраваць у Міністэрства культуры.





Станіслаў Дубовік

## ПАЛАЦ ГУБЕРНАТАРА АБЯЦАЛІ АДНАВІЦЬ ДА 2011 ГОДА

**2014 год для Магілёва ўжо адзначаны тым, што ў ім з'явілася плошча Славы. Былая Савецкая плошча, дзе і да гэтуль усхваляюцца барацьбіты за савецкую ўладу, змяніла назву, але не змяніла зместа. З таго, што непасрэдна тычыцца старадаўняй магілёўскай гісторыі, а менавіта ў ёй і ёсць сапраўдная слава нашага горада, на плошчы толькі Ратуша і краязнаўчы музей, дзе калісьці месціўся земскі суд. Будынак губернскага праўлення і Палац губернатара, якія б стварылі непаўторны архітэктурны ансамбль цэнтра Магілёва, улады аднаўляць не збіраюцца, хаця абяцанкі былі.**



Палац губернатара быў пабудаваны ў хуткім часе пасля далучэння Магілёва да Расійскай імперыі ў 1778 годзе ў стылі класіцызму. Ён стаяў прыклана там, дзе цяпер помнік, што ў народзе называецца "Аксана, якая бяжыць з Лаўсана". У савецкія часы ў Палацы губернатара размясціўся Палац піянераў. Пры наступленні саветамі і ў 1944 годзе авіяцыя ўзарвала будынак.

"Дом губернатара быў двухпавярховым, мураваным, трывалай пабудовай. Лічылася, што ў ім некалькі дзён жыў французскі маршал Даву пры наступленні войскаў Напалеона на Маскву ў 1812 годзе. Але гэты трывалы дом не заслужыў назвы "палац", якую сталі даваць яму з восені 1915 года, калі ў ім пасяліўся расійскі імператар Мікалый ІІ, узяўшы званне Вярхоўнага галоўнакамандуючага", - піша ў сваіх успамінах Андрэй Уласаў, які да рэвалюцыі вучыўся ў Магілёўскай мужчынскай гімназіі, потым змагаўся на франтах Першай сусветнай вайны, з чырвонай навалай, і памёр у эміграцыі ва Францыі ў 1980 годзе.

Згодна апісанняў сведкі, тарэц будынка выходзіў у сад пры губернатарскім доме, а адваротны ад параднага фасад глядзеў у двор, у бок Дняпра, але раку і прадмесце Лупалава можна было ўбачыць толькі з другога паверха. На першым паверсе гэтага не дазвалялі зрабіць розныя пабудовы.

Уваход у двор з боку плошчы афармляла брама, якая злучала Палац губернатара з будынкам Магілёўскага губернскага праўлення.

Паколькі Андрэй Уласаў быў пляменнікам магілёўскага губернатара Аляксандра Пільца, то, натуральна, ён бываў у губернатарскім палацы, па меншай меры да таго часу, пакуль там не пасяліўся Мікалай ІІ.

Па сведчаннях колішняга магілёўскага гімназіста, уваходныя дзверы ў Палац з плошчы месціліся ў прамавугольным выступе, які называлі тамбурам. Сутарэнне над уваходам было закругленае. "Не было асаблівай аховы, тым больш каравула. У "тамбуры" дзяжурыў толькі звычайны паліцэйскі ў форме, так званы "гарадавы". Узбраенне такое ж, як ва ўсіх гарадавых Магілёва: шабля звычайнага салдацкага ўзору і рэвальвер у кабуры сістэмы "Наган" з барабанам. Шнур да рэвальвера аранжавага колеру. На пасаду гарадавых паступалі па ўласным жаданні і з адпаведнай рэкамендацыяй салдаты, якія адслужылі свой тэрмін", - піша Уласаў у дзённіку, які захоўваецца ў архіве Дома рускага замежжа імя А.Салжаніцына, і апублікаваны на інтэрнэт-партале "Рускі шлях".

Паводле Уласава, у павернутым да плошчы фасадзе ніжняга паверха было сем вокнаў. І столькіх было на верхнім паверсе. У доме не было ліфта, не было і цэнтральнага ацяплення. Печкі тапілі дровамі, але рабілі гэта хутчэй для задавальнення, а не для саграванне.

Зала в Палацы губернатора была белай са светлымі шпалерамі і партрэтамі цара і царыцы. Там былі крэслы на белых ножках, тры вокны і вузкія высокія люстэркі, паркетная падлога. У залі стаяў чорны раяль.

"Сад пры Палацы губернатара месціўся часткова на схіле, што ішоў да Дняпра. Узімку ён быў занесены снегам. У садзе стаялі чатыры старыя гарматы, па чутках, - шведскія. Яны былі без лафетаў, толькі целы гармат; адно значна большае за тры іншыя. Іх аздобілі драўлянымі падстаўкамі і пабарбарску пафарбавалі чырвоным сурыкам", - піша Андрэй Уласаў, адзначаючы, што ў садзе граў па асобных вечарах вайсковы аркестр, які "вельмі прываблівае шпацыруючую публіку".

Праз сто гадоў аркестры там ужо не граюць. Але спробы аднавіць архітэктурны ансамбль колішняй Губернатарскай плошчы, якая цяпер завецца плошчай Славы, былі. Так, у 2008 годзе магілёўскі гісторык Ігар Марзалюк, які цяпер ёсць сенатарам у Савеце рэспублікі Нацыянальнага схода, казаў, што верагоднасць адбудовы палаца досыць высокая.

"Ідэя гэтая была выказаная мной у прыватнай гутарцы са старшынёй аблвыканкама Барысам Батурам, ён у прынцыпе гэтую ідэю падтрымаў. Ну і калі было ўрачыстае адкрыццё Ратушы, у ім прымаў удзел прэзідэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка.

Працяг на стр.4